ЖЫВЕ БЕЛАРУСЬ!



# АБУДЖЭНЬНЕ

ВЕСЬНІК МАГІЛЁЎСКАЙ РАДЫ
БЕЛАРУСКАГА НАРОДНАГА ФРОНТУ

№ 2

кастрычнік 1989

Першы нумар "Абуджэньня" выклікаў шматлікія водгукі, як у вуснай, так і ў пісьмовай форме. Мы шчыра дзякуем усім, хто праявіў увагу да нашага выданьня, хто знайшоў час выказаць нам свае меркаваньні, пажаданьні, заўвагі, прапановы, хто падтрымлівае наша выданьне сваімі ахвяраваньнямі. Апошняе асабліва важна, бо бяз гэтага выданьне наступнага нумара весьніка стала б немагчымым. Таму мы павінны выказаць асабістую падзяку шматгадзетнай маці Марыі Іосіфаўне Кая[illegible] яе 5 рублёў, Уладзіміру Мікалаевічу Бажку за яго 3 рублі і шмат іншым, якія ахвяравалі нам рубель ці болей, адарваўшы гэтыя грошы ад не такога ўжо багатага бюджэту сваёй сям'і. Настаўніца з горада Кургана Дзіана Васільеўна Гарунова разам з двума рублямі, што знайшліся ў яе кашальку, перадала нам верш Сашы Багданава "Памяці ахвяр тбіліскай бойні", які мы абавязкова надрукуем. Дарэчы, вершаў нам перадаюць і дасылаюць шмат, але мы павінны засмуціць іх аўтараў: вершаў мы будзем друкаваць вельмі мала. Паступіла некалькі заўваг аб памылках у беларускамоўным тэксьце. Памылкі там, на жаль, сустракаюцца, і мы ўдзячны за такія заўвагі. Аднак большасьць з гэтых заўваг ня мае падстаў. Справа ў тым, што мы спрабуем вярнуць дарэформенны правапіс беларускай мовы – з мяккім знакам пасьля мяккай зычнай, з перадначаськной "я" і зь некаторымі іншымі асаблівасьцямі зьнявечанага ў 30-я гады правапісу. Навошта гэта? Перш за ўсё таму, што рэформа атрымалася няўдалай і надала беларускай мове нязвыклую для яе жорсткасьць. Мова крыху страціла сваёй мілагучнасьці, а яе правапіс аддаліўся ад прынцыпу "як чуецца, так і пішацца". Цяпер ёсьць магчымасьць выправіць і гэтую памылку сталінскага часу. Праўда, гэты працэс будзе ісьці нягладка: большасьць з нас нарадзіліся пазьней і дарэформенных тэкстаў амаль што не чыталі. На першых кроках непазбежныя памылкі. Але ж пачынаць трэба. Успамінаецца, на "Дыскусійнай трыбуне", прысьвечанай моўнаму пытаньню, хтосьці выкрыкнуў аднаму з беларускамоўных выступаючых: "В вашем выступлении я насчитал с десяток ошибок. Если не можете правильно говорить по-белорусски, лучше не говорите!" З такім посьпехам можна было крыкнуць хвораму, які пасьля доўгай хваробы падняўся і пачаў занава вучыцца хадзіць: "Калі ня можаш роўна хадзіць, лепей не хадзі зусім!" Пакуль што мы будзем размаўляць па-беларуску з памылкамі (прабачце!), але ж размаўляць будзем.

Нельга абмінуць увагай яшчэ адно пісьмо. Яго аўтары – "работники аппарата ОК КПБ" (так яны падпісаліся) – паведамляюць некаторыя зьвесткі аб жыцьці і дзейнасьці партыйных кіраўнікоў горада і вобласьці, пачынаючы ад агульнавядомых (напрыклад, аб самагубстве былога загадчыка аддзела навукі і навучальных устаноў абкама партыі С.І.Карпечкіна, магчымыя прычыны якога вось ужо некалькі год абмяркоўваюцца ў кулуарах) да зусім невядомых. Аднак, як бы ні бажыліся ананімныя аўтары, што "факты – чыстая праўда", мы ня можам пераносіць іх на старонкі нашага весьніка. Адказнасьць за інфармацыю, зьмешчаную ў кожнай публікацыі, нясе яе аўтар. Пры наяўнасьці подпісу мы можам надрукаваць нават такі матэрыял, зь якім зусім ня згодныя. Пры адсутнасьці ж подпісу адказнасьць кладзецца на рэдакцыю. Урэшце, мы можам у асобных выпадках друкаваць матэрыялы і пад псеўданімам, аднак і ў гэтых выпадках сапраўднае прозьвішча аўтара павінна быць вядома рэдакцыі. Таму давайце набірацца сьмеласьці для адкрытай крытыкі з адказнасьцю за кожнае слова.

Абуджэньне – 2, 1989. 2

# ЧЫРВОНА-ЧОРНЫ ЛІСТ КАЛЕНДАРА

17 верасьня – памятны дзень для Беларусі. У гэты дзень 50 год назад народ Заходняй Беларусі радасна вітаў Чырвоную Армію – вызваліцельніцу. У гэты дзень Беларусь нарэшце стала адзінай, хаця і не самастойнай. Чакалася, што ў складзе краіны сацыялізму для яе адкрываецца шлях у сьветлую будучыню. Аднак будучыня аказалася жудаснай. Выдрэсіраваныя на арганізацыі масавых рэпрэсій ва Ўсходняй Беларусі і іншых месцах сталінска-берыеўскія шакалы накінуліся на сьвежае цела "вызваленых" заходнебеларускіх зямель, зь лёгкасьцю незвычайнай знаходзячы там усё новых і новых "ворагаў народа". За няпоўныя 2 гады (да пачатку Вялікай Айчыннай вайны) з Заходняй Беларусі было дэпартавана ці зьнішчана каля дзесяці працэнтаў насельніцтва. З адной толькі Гародзеншчыны за гэты час было вывезена на Калыму і ў іншыя "выхаваўчыя пункты" Гулага 210 тысяч "раскулачаных" сялян. Лёс большасьці зь іх невядомы. Запалалі кастры з кніг, у асноўным, польскамоўных. Частка Берасьцейскай крэпасьці (няпераўняй крэпасьці-героя) была ператворана ў турму, бо пасьля дагавору з Гітлерам Сталіну стала не патрэбнай моцная крэпасьць на Захадзе, а турмаў не хапала. Аднак у турмы заганялі пераважна простых людзей, малаадукаваных, сялян, працоўных. Прадстаўнікоў жа інтэлігенцыі, лепшых зь іх, розум народу, без якойсьці судовай "валакіты" расстрэльвалі. Роўна адзін патрон у патыліцу кожнаму, эканомілі, бо вельмі ж многа патронаў расходавалася на будаўніцтва сацыялізму. Плямы новых Курапатаў густа пакрылі карту далучанай Заходняй Беларусі.

Ці можна гаварыць тут аб узьяднаньні? Ці да месца тут гэтае ўзьнёслае слова? Не! Адбылося простае далучэньне заходнебеларускіх зямель да імперыі так званых Саветаў. Ці можна разглядаць гэты выпадковы сталінска-гітлераўскі падарунак беларускаму народу як сьвята для беларусаў? Тут і сьвята, і гора, і радасьць, і смутак, і сьлёзы шчасьця, і сьлёзы болю.

Беларусь заўсёды лічылася прывабным кавалкам у імперскім дзеляжы зямель. На яе сквапіліся і Польшча, і Масковія, і швэды, і крыжакі. Што зьмяніла тут рэвалюцыя 1917 года? Сумна ўспамінаць, але пачатак эры сацыялізму азнаменаваўся тым, што наш паважаны правадыр дзеля дасягненьня сваіх палітычных мэтаў выкарыстаў Беларусь як разьменную манету ў гандлі зь немцамі і туркамі. Жывое цела Беларусі было расьсечана на дзьве часткі. І вось праз 21 год аб'яднаньне. Ды горкай аказалася радасьць, бо два браты абняліся ў турме. Для аднаго зь іх меньшую камеру памянялі на большую, наглядальнік якой аказаўся яшчэ больш лютым.

І пасьля гэтага Сталін і яго ўрад глядзелі на Беларусь як на разьменную манету для сваіх палітычных інтрыг. У лістападзе 1939 года беларускім горадам Вільняй і навакольнымі землямі* ён заплаціў Літве за яе згоду на дагавор аб "узаемадапамозе" з уводзеньнем туды "абмежаванага кантынгенту савецкіх войск". У 1946 годзе Сталін заахвоціў Польшчу сваёй палітыкай, перадаўшы той беластоцкія землі Беларусі.

Так будзе працягвацца і далей, пакуль Беларусь ня стане самастойнай і незалежнай**, пакуль беларускі народ ня стане гаспадаром на сваёй хаця б і абрэзанай зямлі, і ім ня будзе камандаваць ніякі чыноўнік ні з Рыма, ні з Масквы, ні з Варшавы, ні з Рыа-дэ-Жанэйра...

---

*Я ня маю намеру патрабаваць вяртаньня Вільні Беларусі. Літоўскі народ зь вялікай павагай аднёсься да гэтага падарунка, зрабіўшы Вільню сваім галоўным горадам, шануючы і ўпрыгожваючы яго. Факт прыведзены толькі дзеля раскрыцьця палітыкі Сталіна ў адносінах да Беларусі, на месцы якой магла б аказацца любая іншая ўскраіна "Саюза".

**Ня трэба разумець гэтыя словы як заклік да аддзяленьня ад Саюза. Добра сказала аб гэтым простая літоўская жанчына: "Мы – не за выхад з Саюза. Мы – за такі Саюз, зь якога не захочацца выходзіць." Аб самастойнасьці Беларусі ў складзе Саюза – гл. Праграму БНФ.

8 верасьня старонка "Чырвона-чорны ліст календара" была зачытана на пасяджэньні "за круглым сталом" на курсах абкама партыі для сакратароў парткамаў. На адным эпізодзе яе нярвовага абмеркаваньня хочацца спыніцца.

"Каго вы маеце на ўвазе, гаворачы "наш паважаны правадыр"? - запытаў адзін з прысутных. - Леніна?" - "Так," - пацьвердзіў я. "Ну вось, ужо і на Леніна руку паднялі!" - "А чаму ж Леніна нельга крытыкаваць?" - зьдзівіўся я. "Але ж павінна быць нешта сьвятое!" - адрэзаў мой субяседнік.

НЕШТА сьвятое ці НЕХТА сьвяты? Нешта сьвятое у нас ёсьць. Напрыклад, сумленнасьць, праўда, каханьне (я маю на ўвазе нармальных людзей). Але чалавеку, прайшоўшаму тысячагадовы шлях рэлігійнага пакланеньня ўсявышняму і яго намесьніку на зямлі - цару, боязна і балюча так раптам пераступіць праз гэта, яму патрэбен для супакаеньня душы нейкі "вышні судзія", нейкі ідэал, на якога можна маліцца. Цароў зьверглі, бога зьняважылі. "Сьвятое месца" засталося пустым. Вось і пасадзілі туды Леніна, як найбольш дастойнага кандыдата. Так зь Леніна зрабілі ідала, у якога можна сьлепа верыць, а ведаць не абавязкова. Нават лепей ня ведаць, бо веды прыводзяць да сумненьняў, а сумненьні разбураюць веру. Адсутнасьць жа ведаў прыводзіць да немагчымасьці аргументаванай дыскусіі, - ці не таму так раўніва-агрэсіўна сустракаецца ўсякае "пасягненьне" на "сьвяты вобраз" правадыра? Ужо Н.К.Крупскую палохала перспектываператварэньня ленінізма ў новую рэлігію і яна крычала: "Не замузеивайте Ленина!" Аднак яе вокліч не дапамог. Сёньня ж трэба вяртаць Леніну аблічча звычайнага чалавека - са сваім характарам і звычкамі, са сваімі думамі і сумненьнямі, са сваімі вартасьцямі і памылкамі.

Мабыць, трэ' было сказаць аб гэтым майму субяседніку, аднак сумбурная наша размова перакінулася на іншае... "Падвеў рысу" В.А.Юшкевіч: "Статья безграмотная, но если бы от меня зависело, публиковать её или нет, я бы сказал: публиковать! Потому что надо давать отпор..." Што ж, хай будзе па Юшкевічу. Магчыма, у артыкуле штосьці ня так, магчыма, знойдуцца людзі, якія ўнясуць папраўкі ці выкажуць іншыя меркаваньні. Хай будзе адкрытая размова. Бо пакуль такую размову не пачнеш, да ісьціны не дабярэшся. Сарамлівае замоўчваньне дэлікатных пытаньняў ніколі не прыводзіла да іх разуменьня. Вось і тут: 17 верасьня прайшло, а магілёўскія кіраўнікі не прыдумалі, як адзначыць гэтую дату. "Забыліся" пра юбілей і ў іншых гарадах Беларусі. Толькі ў Бярэсьці не пашкадавалі больш за паўмільёна рублёў на сьвяткаваньне... 970-годдзя горада. Бач ты, "круглая" гэтая лічба якраз жа на гэты дзень папала! Весела было на вуліцах старажытнага горада. А скамарохі ў масках былі асабліва да месца...

*М. Булавацкі*



Саша Богданов

## ПАМЯТИ ЖЕРТВ ТБИЛИССКОЙ БОЙНИ

Опять нависли тучи над страной
И газ направлен в женщин и подростков!
Опять "железный занавес" - стеной,
И под прицелом - каждый перекрёсток.

Опять войска, готовые к броску.
Опять приказ: "Патронов не жалейте!
Сапёрной лопаткой - по виску!
Давите! Арестовывайте! Бейте!"

И скажет мама: "Господи спаси!
И надели беспомощных правами!"

Тысячелетие крещения Руси
Раздавлено под танком в Ереване.

Настроили мы всех против себя,
Грузин и чехов, немцев и литовцев.
Мы все - одна великая семья
Из инвалидов и работорговцев.

Приказ отдавший! Выйди из дворца!
Всмотрись, как люди тянутся к свободе!
... Но не видать лихого молодца.
Правительство дубинки и свинца
С опаской наши митинги обходит.

К ответу - покровителей убийц!!
Покрывших нашу родину позором!
В свободный мир, в Европу без границ
Не волокут за бронетранспортёр...!

Апрель 1989 г.

/ Стихи подвергнуты незначительной редакционной правке /

# ПОДЫХ ЗОНЫ

Чарнобыль! Як маланка ў ціхую ноч. Жудасна і прасьвятляльна. І зноў цемра. Тры гады цемры, тры гады глухой сьлячкі. Нарэшце абуджаемся. Пачынаем прыслухоўвацца да гукаў зоны, да яе подыху. За апошнія паўгода шмат пачулі, пазналі. Але ж ці ўсё? У гэтым "эксьперыменьце" кожная кропля ведаў павінна брацца на ўлік і прыцягваць пільную ўвагу, бо вельмі ж дорага гэтыя кроплі каштуюць.

25 - 26 ліпеня БНФ і БЭС правялі рэйд па раёнах Магілёўшчыны, заражаных радыяцыяй. У рэйдзе прынялі ўдзел і два прадстаўнікі НФ Магілёва. Арганізатары рэйду выказваюць падзяку рэдактару "Магілёўскай праўды" Толсціку М.М., рэдактару газэты "Заклік Ільіча" /Чэрыкаў/ Лявінскаму Я.Я. і рэдактару газэты "Ленінскае слова" /Слаўгарад/ Сурману І.І. за дапамогу ў правядзеньні рэйду.

Гутаркі зь людзьмі, з кіраўнікамі, з урачамі, настаўнікамі, знаёмства з дакументамі, пробныя замеры... Накоплены матэрыял часткова быў выкарыстаны на мітынгу ў Менску 26 ліпеня, часткова - перададзены на разгляд ліпеньскай Сесіі Вярхоўнага Савета БССР.

Некаторыя з гэтых матэрыялаў прапануем увазе чытачоў.

## ГОЛАС МАЦІ

Як балюча слухаць па тэлебачаньню выступленьні вучоных, урачоў, якія лічаць, што ў нашай зоне жыць можна, што нічога страшнага тут няма. А ці падумаў хто зь іх, чым мы кормім нашых дзяцей? Нават цяпер, у разгар лета, яны ня бачаць ніякай гародніны, бо сваю есьці нельга, а апельсіны, лімоны хаця й прывозяць зрэдку, дык па такіх цэнах, што працоўны народ з заработкам 70-80 рублёў у месяц ня мае магчымасьці іх купіць. Усё наша багацьце было ў лясах і палях, ягс нам угробілі радыяцыяй з Чарнобыльскай АЭС. І вось цяпер мы, маці, становімся злачынцамі для сваіх дзяцей: бяром прадукт, пра які ведаем, што ён атручаны радыяцыяй, і пхаем у рот даверлівым дзецям.

Усюды ў яслях, садзіках, школах услаўляецца шчасьлівае дзяцінства. Але ж дзе тое шчасьце, калі дзеці ня могуць нармальна харчавацца? Сумна праходзіць лета, калі ні дзіця ў лес пусьціць нельга, ні ягадзіны яму адтуль прынесьці, а калі хто зьесьць, дык атручаную.

У час Зьезду народных дэпутатаў дэлегацыя Чэрыкаўскага раёна сустракалася ў Маскве з М.І. Рыжковым, які паабяцаў, што Чэрыкаўскі раён будзе забясьпечаны чыстымі прадуктамі па дзяржаўных цэнах. І вось мы атрымалі па паўкіло грэчкі на чалавека ў месяц. Гэта ж звары адзін раз кашу і сядзі цэлы месяц, паклаўшы зубы на паліцу. Зноў падман, ужо з самага "верху".

Мы, шматпакутны беларускі народ, да гэтага часу ні ў каго ніколі не прасілі дапамогі. Жылі самі, як маглі, і другім у цяжкую хвіліну дапамагалі. Чаму ж цяпер на нашу бяду, у якой мы непавінныя, ніхто ня хоча адгукнуцца? Мы не прасілі гэтага гора і мы самі ня можам ад яго пазбавіцца. Дарослыя людзі, каторым бы жыць ды й жыць, хварэюць, не вылазяць з бальніц: ламота ў касьцях, галаўныя болі, санлівасьць. У нас і раней былі цяжкія часіны. Пасьля вайны быў голад, крапіву елі, гнілую бульбу на палях зьбіралі, елі, аднак неяк бадзёра сябе адчувалі, ні санлівасьці такой, ні стомленасьці не было. Чаму ж цяпер нас томіць усё? Мы пераборваем сябе, ходзім на працу, чакаем, што будзе нейкая падтрымка. Але ж хіба гэта падтрымка - паўкіло грэчкі на месяц? Гэта ж проста зьдзек, спроба заткнуць нам рот. Аднак маўчаць мы ўжо ня будзем. Бо нас непакоіць будучыня нашых дзяцей. Ад нас утойваюць, але мы самі бачым, што растуць захворваньні шчытападобнай залозы, што не ў парадку печань і іншае. У яслях і садзіках бяруць у дзяцей аналізы крыві з

вены, аднак рэзультаты нам не паведамляюць.

Хто можа і каму ёсьць куды пераехаць, уцякаюць. Уцякаюць настаўнікі, урачы. А што рабіць тым, хто ня мае такой магчымасьці? Чакаць пагібелі? Уцёк наш "пастух" - былы першы сакратар Чэрыкаўскага райкама партыі Новікаў. Далі яму ордэн і перавялі ў Менск, у ЦК КПБ. Уцёк, пакінуў сваю паству на волю лёсу. А за што ордэн? За тое, што збудаваў пасёлак Майскі на радыяцыйнай зямлі з радыяцыйнага лесу, пасёлак, у якім нельга жыць?

Прыязджаюць да нас вучоныя, заспакойваюць: жыць можна. А самі адмаўляюцца ад абеду ў нашым рэстаране, харчуюцца са сваіх клункаў і тэрмасаў. Хіба ж мы ня бачым! Як давяраць такім вучоным? Як ацаніць іх чалавечнасьць, сумленьне? Ці, можа, ў іх сваіх дзяцей няма? Як цярпець усю гэтую хлусьню па тэлебачаньні? У нас ужо не вытрымліваюць нервы. Калі нашы раёны ня будуць забясьпечвацца чыстымі прадуктамі ў неабходнай колькасьці і па даступных цэнах, нам, мацяркам, нічога не застаецца, як узяць сваіх дзяцей, павесіць торбы на плечы і паехаць у Маскву. Будзем жыць там хаця і пад адкрытым небам, але пад чыстым. Хопіць нам тут пакутаваць і мучыць сваіх дзяцей!

Ад імя мацярок г. Чэрыкава

Барцова Марыя Сьцяпанаўна

Гэты ліст Марыя Сьцяпанаўна прасіла перадаць каму-нібудзь з дэпутатаў для зачытваньня на Сесіі Вярхоўнага Савета БССР. Аднак, паколькі на Сесію была перададзена магнітная стужка з запісам яе выступленьня, ліст застаўся ў нас. Ці пачулі яе ў Вярхоўным Савеце? Ці пачуе яе Рыжкоў?..

Найбольш цікавымі знаёмствамі ў Слаўгарадзе былі знаёмствы з горным геолагам (цяпер пенсіянерам) Шкірманковым Феліксам Уладзіміравічам, кіраўніком грамадзкай камісіі па пытаньнях, зьвязаных з вынікамі Чарнобыльскай катастрофы, і з народным дэпутатам СССР урачом-педыятрам Зояй Мікалаеўнай Ткачовай. Вось адзін з лістоў яе шматлікай пошты (друкуецца ў скарочаным выглядзе).

# СУДЬБОКРУШЕНИЕ

Уважаемая Зоя Николаевна! Меня глубоко потрясло Ваше выступление на съезде, так как я сам пострадал в результате взрыва ядерных отходов, который произошёл в 57 году на почтовом ящике "Челябинск-65". Пострадали десятки деревень и тысячи жителей. Деревни сносили с лица земли, а нас выселяли. Выселяли ещё в духе сталинских традиций: давали небольшую сумму подъёмных, оплачивали ничтожную стоимость строений и - будь здоров, катись куда хочешь! Нашу деревню начали выселять только через год после взрыва. С этого года и начались наши злоключения. То, что Вы ещё только предполагаете о здоровье ваших сограждан, мы уже знаем. Тревоги Ваши не напрасны. Более того, Вы даже осторожны в своих прогнозах. Поэтому я считаю своим долгом рассказать Вам обо всём. Возможно, Вы используете это в интересах не только "чернобыльцев", но и всего народа, ставшего заложником атома на своей родине.

Взрыв произошёл, когда мне было 14 лет. Когда выселили, мне было 15. Переехал я в интернат за 7 км от своей деревни, т.е. практически там же и остался. В 60-м году закончил 10 классов. Первой жертвой после выселения стал пятилетний сын нашей учительницы, который скончался от белокровия. Тогда очень сильно пугали Хиросимой и Нагасаки, в школе велись уроки гражданской обороны и, естественно, мы понимали всю опасность этого взрыва. Но никаких обследований у нас не проводилось, иногда только наезжали представители из зоны "Челябинск-65" проверять на радиоактивность. Приезжавшие

страшно пьянствовали, объясняя нам, что это от радиации спасает. Дезактивации территории не проводилось. Ягоды, грибы брать запрещалось, но мы, дети, всё равно ели. Ели и боялись, что умрём от радиации. Формирование юношей проходило в той тяжёлой обстановке, мы не верили в своё предназначение быть мужчинами. Поэтому в окружающих невыселенных сёлах шли повальные пьянки среди молодёжи, грубые драки. Для многих итогом такой жизни стала тюрьма, другие покончили жизнь самоубийством. Наш десятый класс закончили II мальчиков. Двое потом покончили с собой. У одного моего одноклассника недавно скончался сын от белокровия...

Когда я окончил школу и пошёл поступать в училище, то медкомиссия мне отказала, сказав, что у меня плохая кровь. Когда я им объяснил про взрыв ядерных отходов, был допущен к повторной сдаче крови и меня приняли. Это повторилось и по окончании училища. Вначале на работу не брали из-за плохой крови, потом разрешили работать только в первую смену. Тем самым меня убедили в том, что я облучён очень серьёзно. И когда в двадцать лет одна женщина допустила меня до себя и у меня не получился половой акт, то я понял близость своего конца и свою непригодность как мужчины. Начал пить. Тем более, что уже создалось убеждение, что от радиации алкоголь помогает. Мысль о самоубийстве меня постоянно преследовала. Но я поступил в институт и учёба отвлекла меня от пьянства и поддержала связь с жизнью. Учился я отлично.

В пьяном угаре удалось как-то всё же совершить половой акт, а потом и жениться. Но жена сразу окрестила меня импотентом, а родившийся сын, сказала, не от меня... Только в этом году я заканчиваю платить алименты не на своего ребёнка (и фамилия у него другая, так как брак наш был недолгим; она вышла замуж и взяла для себя и ребёнка фамилию нового мужа). Мой повторный брак был ничем не лучше первого. Только тем и держался 7 лет, что сын был мой.

В 37 лет, когда был в Сочи, обратился к сексопатологу. Тот меня успокоил, что всё в порядке. Но я уже никому не верил. В общем, брак уже 7 лет как расторгнут. Живу один. Взял себя в руки благодаря сыну, который живёт рядом, почти совсем не пью, бросил курить. Но жизнь моя протекает очень скверно. За подавленный характер меня считают плохим человеком, неуживчивым, замкнутым...

Я писал в "Литературную газету", в "Юность", товарищу Куркину, который борется против атомных станций. Не знаю, благодаря ли моей писанине, но в "Московских новостях" за 30 апреля с.г. я впервые увидел сообщение об уральской трагедии. Через десять дней нечто подобное появилось и в "Комсомольской правде". И там очень важное утверждение, что если бы люди знали об уральской трагедии, то не было трагедии в Чернобыле. Но теперь, чтобы дети чернобыльской трагедии не стали изгоями в обществе, мы должны что-то делать. И очень хорошо, что Вы ударили в набат со столь высокой трибуны. Только трудно необлучённым понять облучённых. Надо собрать все факты, чтобы необлучённые проснулись, встрепенулись, подумали, что они тоже могут оказаться в таком же положении. Для этого я и привёл Вам только часть трагических моментов из своей 46-летней жизни.

Н.А.Подрязов, юрисконсульт.

Свердловская область.

---

– Когда я вдумалась в это письмо, – сказала Зоя Николаевна, – оно меня потрясло. Я его начала читать всем знакомым. Эта судьба на многое открывает глаза. И как понять тех, которые заявляют, что о Чернобыле говорить хватит, что всё-де уже сказано и нечего нагнетать страсти?! Я очень обижена на Буряка. Потому что он усыпил бдительность всех, и нас, и нашего руководства. Я бы его приговорила к расстрелу! Он виноват! Он, главный санитарный врач, хорошо знает, что это такое. И, зная это, он понёс ложь!..

– А ещё Кондрусёва надо судить, – добавляет Т.Белоокая. – И вот ещё. 28 апреля 1986 года вечером Слюнькову передали докладную записку академика Нестеренко, директора института ядерной энергетики. Мер, которые предлагал Нестеренко, принято не было. 26 июня он отправил письма аналогичного содержания в Могилёвский и Гомельский облисполкомы... Сегодня Нестеренко уже не директор, пережил 5 судов, пока с благополучным исходом, последний длился десять дней...

У канцы жніўня больш за тысячу жыхароў заражаных раёнаў Берасьцейскай, Гомельскай і Магілёўскай вобласьцяў зьвярнуліся ў БЭС і БНФ з прапановай правесьці ў Менску 30 верасьня масавы мітынг, на якім яны б змаглі выкласьці свае патрабаваньні да Ўрада рэспублікі. Такі крок зь іх боку быў вымушаны, бо другімі шляхамі іх патрабаваньні ці не даходзяць па назначэньні, ці не ўспрымаюцца там як лямант аб паратунку. Кіраўніцтва БНФ і БЭС палічыла прапанову слушнай і зьвярнулася з адпаведнай заявай да Вярхоўнага Савета БССР. Адказу чакалі доўга: адказныя асобы ліхаманкава шукалі выйсьце – трэба адмовіць, але адмовіць так, каб зьнешне ўсё выглядала прыстойна. І вось азарэньне: на 30 верасьня аб'яўлены рэспубліканскі суботнік "у фонд ліквідацыі наступстваў Чарнобыльскай аварыі". "Вы просіце паратунку? – Зарабляйце грошы на свой паратунак!" Падрыхтоўка і агітацыя вяліся па адшліфованай схеме: усе на суботнік у абавязковым парадку! Некаторыя жыхары Чэрыкаўскага, Слаўгарадскага і іншых раёнаў выказалі пажаданьне ехаць на мітынг, на што ім жорстка адказалі: "Хто паедзе ў Менск, хай лепей не вярочаецца!" На прадпрыемствах працоўныя выказвалі непаразуменьне: чаму ў самым канцы квартала, калі на ўліку кожная гадзіна для выкананьня планаў, іх адрываюць ад сваёй працы і гоняць на поле, дзе і без таго вялікі натоўп студэнтаў і школьнікаў? На некаторых прадпрыемствах прынялі рашэньне проста пералічыць у "фонд Чарнобыля" аднадзённы заработак.

Вось такі дакумент перадаў нам дацэнт МТІ А.С.Гальцоў:

### РЭЗАЛЮЦЫЯ СХОДУ ПРАЦОЎНАГА КАЛЕКТЫВУ
### Магілеўскага тэхналагічнага інстытута ад 28.IX.89.

1. Пералічыць аднадзённы заработак калектыву на рахунак Магілёўскай абласной дзіцячай бальніцы для медыцынскай дапамогі дзецям з раёнаў Зоны.
2. Асудзіць рашэньне Ўрада БССР аб правядзеньні рэспубліканскага суботніка менавіта ў дзень рэспубліканскай акцыі "Чарнобыльскі шлях", якая праводзіцца па ініцыятыве жыхароў радыяцыйна заражаных раёнаў.
3. Запатрабаваць ад Урада БССР апублікаваць канцэпцыю бясьпечнага пражываньня ў радыяцыйна заражаных раёнах, прапанаваную 34 народнымі дэпутатамі СССР ад Беларусі. /Прынята адзінагалосна пры двух устрымаўшыхся./

Не засталіся абыякавымі да гэтай падзеі і нашы чытачы. У рэдакцыю "Абуджэньня" дайшлі некалькі лістоў, адзін зь якіх мы вырашылі надрукаваць.

### НОБАЯЎЛЕНЫЯ МЮНХАЎЗЕНЫ

Аб'яўлены ў пажарным парадку на 30 верасьня суботнік выклікаў непаразуменьне ў многіх людзей. Чаму так раптоўна? Чаму суботнік толькі рэспубліканскі, а не ўсесаюзны? І шмат іншых "чаму". 28 верасьня на "Дыскусійнай трыбуне" першы намесьнік старшыні аблвыканкама Ф.М.Катушкін крыху праясьніў становішча, давёўшы да ведама слухачоў, што на ліквідацыю вынікаў Чарнобыльскай аварыі Магілёўшчыне патрэбна 16 мільярдаў рублёў. А цяпер нам на год Масква дае не больш аднаго мільярда. Атрымліваецца, што дапамога ахвярам Чарнобыля расьцягнецца аж на 16 гадоў. А ці дажывуць усе ахвяры да гэтай дапамогі, ці дачакаюцца сваёй чаргі? Задумаліся над гэтым пытаньнем нашы кіраўнікі і вырашылі, што нельга нам чакаць столькі часу, нельга спадзявацца на тых у Маскве, што раней сядзелі ў Менску і ў свой час адмаўляліся ад дапамогі. Трэба тэрмінова шукаць выйсьце.

... І знайшлі мудрае рашэньне: выратаваньне ўтапельцаў – справа рук саміх утапельцаў! Не марнуючы часу, адразу ўзяліся за справу: аб'яўлены на 30 верасьня суботнік аказаўся першым мерапрыемствам нашых кіраўнікоў па нашаму выратаваньню. Гэта нагадвае, як у свой час барон Мюнхаўзен выцягваў сябе самога за валасы з балота, у якое ён трапіў.

Трэба спадзявацца, што калі гэткія ідэі і далей будуць асьвятляць галовы нашых кіраўнікоў, то ўрэшце-рэшт які-небудзь вынік будзе: ці валасы сабе павыдзіраем, ці ўсё ж можа й выцягнем сябе з радыёнукліднага балота.

Да сказанага трэба дадаць, што 30 верасьня адбываецца дзіўнае супадзеньне дзьвюх падзей: суботнік, аб'яўлены кіраўніцтвам рэспублікі, і мітынг у Менску, на які павінны былі зьехацца ахвяры Чарнобыля. Але хаця мітынг планаваўся задоўга да аб'яўленага суботніка, на яго цяпер прыедзе мала народу, бо ахвяры ў прымусовым парадку пойдуць зарабляць грошы на свае выратаваньне. Напрошваецца думка: а ці не стане гэта традыцыяй – супадзеньне па часу мітынгаў з "працоўнымі сьвятамі" і іншымі "пажарнымі" ініцыятывамі нашых кіраўнікоў? Пажывем – пабачым...

Р.С.Прошына


Абуджэньне - 2, 1989. 7

Суботнік адбыўся. Як паведамілі газэты, у ім прыняло ўдзел два з паловай мільёны чалавек. У выніку на дапамогу ахвярам Чарнобыля будзе пералічана 8 мільёнаў рублёў. Кожны ў сярэднім зарабіў па 3 рублі. Мабыць, іншага і чакаць нельга было, бо так аўральна абʼяўлены суботнік і ня мог быць добра падрыхтаваны. Адбылася ў Менску і акцыя "Чарнобыльскі шлях". Распавядае аб ёй наш карэспандэнт, адзін з удзельнікаў акцыі.

## ШЛЯХ З ПЯТЛЁЙ НА ШЫІ

Жить стало лучше,
жить стало веселее...

Иосиф Сталин

... А што яны нясуць на худых плячах,
На руках у крыві, на нагах у лапцях?
Сваю крыўду.

Янка Купала

... Дрэннае надворʼе не перашкодзіла. Да назначаных 14-30 было яшчэ амаль паўгадзіны, а каля парка Чэлюскінцаў ужо гудзеў вялікі людскі натоўп, які даволі хутка напаўняўся. Тут былі і рабочыя, і прафесары, і камуністы, і беспартыйныя, і народныя дэпутаты, і іх выбаршчыкі. Можа, камусьці зноў захочацца абʼявіць іх зборышчам экстрэмістаў, але гэта быў народ, той самы народ, які так доўга цярпеў кабалу загніваючага бюракратычнага апарата і раптам адчуў, што далей цярпець нельга, бо далей — сьмерць. Гэта была тая самая моц, што здольная зьнішчыць любыя перашкоды. Разумеючы гэта, улады паспрабавалі сарваць акцыю, абʼявілі "Вялікі пачын", а на сабраўшыхся напусьцілі міліцыю. Аднак міліцыянты, навучаныя горкім вопытам леташняга кастрычніка, абыйшлісяаднымі заклікамі. То яны прапаноўвалі народным дэпутатам "предотвратить противоправную акцию", то папярэджвалі арганізатараў аб неабходнасьці несьці адказнасьць, то заклікалі ісьці на стадыён. Аднак на гэта не зьвярталі ўвагі. Калона паступова пастроілася. Наперадзе пад харугвай сталі народныя дэпутаты, прафесары, пісьменнікі, акадэмікі. Тысячы людзей з гербамі "Пагоня" ў руках, з бела-чырвона-белымі сьцягамі, чорнымі транспарантамі з назвамі заражаных раёнаў павольна рушыліся да Дома Ўрада на плошчу Леніна. Амаль кіламетровая калона заняла сярэдзіну Ленінскага праспекта, аставіўшы для транспарта па дзьве паласы па баках. У першых радах калоны ішлі тыя, хто ўсе гэтыя тры змрочныя гады жыў і атручваўся ў заражаных раёнах. Над калонай гучала: "Далоў Сакалова! Далоў Вандэю!" Праз нейкую гадзіну калона далучылася да некалькіх дзесяткаў тысяч чалавек, што ўжо чакалі яе на плошчы перад Домам Ўрада. Дождж узмацніўся, але яго не заўважалі. Мітынг адкрыў Зянон Пазьняк. Першае слова ён па чарзе прадастаўляў Сакалову, Дземянцею, Кавалёву. Але ні "партыйны правадыр", ні "прэзідэнт", ні "прэмʼер" не адгукнуліся. Магчыма, яны зьбіралі бульбу на палях у фонд Чарнобыля. Затым слова было прадастаўлена народным дэпутатам СССР Адамовічу, Шушкевічу, Карніенка, Веліхаву, жыхарам Зоны, якія паведалі аб жудасным бедстве, у якое яны трапілі. Больш за ўсё людзей непакоіць лёс дзяцей, рост колькасьці захворваньняў сярод іх. Боль, сьлёзы і горыч з аднаго боку і металічная абыякавасьць з другога, з боку кіраўнікоў. Адны крычаць аб хваробах і сьмяротнасьці, другія — аб "гробовой компенсации" і "недостатке опыта". Не выпадкова большасьць выступаючых адзначала, што для вырашэньня шматлікіх праблем, у першую чаргу чарнобыльскіх, для пабудовы нармальнага чалавечага жыцьця трэба абраць новую ўладу, народную ўладу. Таму амаль усе востра ставілі пытаньне аб адпаведных законапраектах.

Рэзалюцыя, амаль аднагалосна прынятая ўдзельнікамі мітынгу, зьмяшчала патрабаваньні хутчэйшага ажыцьцяўленьня беспарогавай канцэпцыі беларускіх вучоных, тэрміновага, але дабравольнага перасяленьня жыхароў заражаных раёнаў з выплатай ім кампенсацыі, вызваленьня ад сваіх пасад усіх вінаватых у стварэньні чарнобыльскай таямніцы і публічнага суда над імі. У канцы рэзалюцыі было зазначана, што калі ўлады і далей будуць ісьці на канфрантацыю, не рэагаваць на патрабаваньні народа, калі будуць прынятыя прапанаваныя іезуіцкія заканапраекты ў якасьці законаў, то ў руках людзей застанецца адзіны сродак самаабароны — палітычныя забастоўкі.


Абуджэньне - 2, 1989. 8

# В поисках Хозяина

Отчуждение трудящегося человека от власти, от власти над собой, над условиями своего общественного существования кучкой "учителей" и "героев", есть основа неограниченной эксплуатации человека человеком, человека государством (что в принципе одно и то же). Ибо право для одних необходимо обращается в бесправие для других.

Основой права человека на **человеческое** существование есть прежде всего право на собственность. На сегодняшний день мы все являемся свидетелями уникального явления в истории: государство есть абсолютный и исключительный собственник всего живого и неживого. Но государство не дух, не бесплотно. Для трудящихся средства производства ничьи, они никому не принадлежат, даже вождям и их опричникам. Но тот, кому **постоянно** поручено временно распоряжаться ими, получает возможность распоряжаться ими как собственными.

Создаётся ситуация, когда нет реального хозяина. Обычно под хозяином мы понимаем отдельных людей либо коллективы (общины) производителей. Здесь же хозяином становится община управленцев. Функции "отсутствующего" хозяина естественно переходят (всё так же "как бы" временно) в руки исполняющих его обязанности, которые, однако, не видят никакой, даже волшебной возможности, что хозяин когда-либо появится.

Революция свергла старых хозяев, потому что они эксплуатировали весь остальной народ. Государство нового общества вместо того, чтобы сделать всех без исключения хозяевами, сделало всех без исключения пролетариями. Но одна часть пролетариев получила право на власть, право присматривать за собственностью, право распоряжаться ею, другая же часть нанималась на работу под началом первых.

Возникло положение, когда народ разделился на две противостоящие друг другу части. Одна часть "как бы не хозяева", другая "как бы хозяева". Но ни у первых, ни у вторых нет интереса. Того самого, которым движима идея, **экономическая** идея. Всё стало чужим. Воровство и ложь стали способом существования как для тех, так и для других. Страшный идеологический джинн вылез из бутылки: отсутствие хозяина чем не материальная основа воспитания вседозволенности, потребительства, преступности и вообще социального разврата.

Время неумолимо заставило проявиться-таки истинной сущности слуг государственной бюрократической машины. Мы узнали, что есть спецмагазины, спецбольницы, дома отдыха, санатории, средства сообщения, гостиницы, продукты питания и предметы развлечения, законы и права, и даже тюрьмы. За скромным рисунком очага открылся совсем иной мир, иная цивилизация. Почти коммунизм. А совсем недавно мы услышали отрыжку растревоженного чрева бюрократии: появился закон, по которому за оскорбление и дискредитацию государственных лиц налагалось особое наказание, более суровое, чем за те же действия против остального народа. А вчера Верховный Совет буквально онемел в праведном гневе на замечание депутата Болдырева, что для депутатов организована спецторговля товарами, которых нет для того же остального народа. Даже избранникам народа трудно понять, что условия должны быть одинаковыми для всех. Ибо бытие определяет сознание. И чтобы изменять это бытие, надо его непосредственно ощущать.

Частное право на монопольную частную собственность принадлежит государству, а фактически государевым слугам. То, что должно быть уничтожено, получило вечное право на вечную жизнь. Гегелевское завещание о воплощении абсолютного духа свершилось.

Иван Кириленко, рабочий
/г. Шклов/

# К избирателям Могилевщины

Реакционные силы извлекли уроки из многих поражений на прошедших в марте выборах. Опираясь на мощный, хорошо отлаженный механизм, они активно готовятся к предстоящим выборам. По всей стране развёрнута грязная кампания шельмования депутатов от народа, - это очень хорошо ощущается в Могилёве. Для предприятий уже подбираются кандидаты от аппарата в народные депутаты и в окружные избирательные комиссии. Осуществляется консолидация консервативных сил путём создания аппаратом республиканских и союзных интерфронтов, объединённых советов трудовых коллективов и других организаций, призванных имитировать поддержку народом аппаратных кандидатур.

Противостоять классу бюрократов мы можем только совместными усилиями всего народа, объединившись вокруг единой демократической предвыборной платформы. В качестве такой платформы наш комитет предлагает принять платформу Межрегиональной депутатской группы, в которую вошли и народные депутаты СССР от Могилёва С.А.Габрусев и В.Л.Фоменко.

Могилевчане! Объединяйтесь на своих предприятиях и по месту жительства в группы поддержки демократических выборов! Подбирайте и выдвигайте достойных товарищей в окружные избирательные комиссии, от которых во многом будут зависеть результаты выборов. Нельзя дать аппарату захватить там ключевые позиции! В предыдущей предвыборной кампании мы эту часть проспали.

Подбирайте и готовьте кандидатов от народа в местные Советы и в Верховный Совет БССР - людей честных и смелых, мыслящих и деловитых, тех, кого вы хорошо знаете, кому доверяете. Сообщайте о своих кандидатурах в общественную приёмную народных депутатов /пр. Шмидта, д. 7, общежитие № 7 МПО "Химволокно". Телефон: 41 - 19 - 30 /. Там же можно ознакомиться с платформой Межрегиональной депутатской группы. Наш комитет будет всемерно поддерживать кандидатов в народные депутаты, разделяющих эту платформу.

Жители отдалённых районов! Знайте: именно через ваши избирательные округа будут стараться пролезть в Советы представители бюрократии. Будьте бдительны!

Граждане Могилёвщины! Мы призываем вас проявить в предвыборной кампании максимум инициативы, активности и трезвомыслия. От результатов этих выборов очень сильно зависит наша дальнейшая жизнь!

Вся власть - Советам истинно народных депутатов!

МОГИЛЁВСКИЙ КОМИТЕТ СОДЕЙСТВИЯ ДЕМОКРАТИЧЕСКИМ ВЫБОРАМ

## ПРЕДВЫБОРНАЯ ХРОНИКА СЕНТЯБРЯ

9.09. На встречу с народным депутатом СССР С.А.Габрусевым пришло более двухсот человек. Встреча состоялась в ДК "Химволокно". Собравшиеся высказались за опубликование в областной печати Программы и Устава Белорусского Народного Фронта, а также альтернативного проекта Закона о выборах народных депутатов Белорусской ССР, одобренного Учредительным Съездом БНФ.

14.09. В Доме политпросвещения состоялась "Дискуссионная трибуна", на которой обсуждались официально представленные проекты Законов о выборах. Было высказано ряд предложений, голосовать за которые не сочли целесообразным. Тем самым необходимость в собрании 17 сентября, о котором здесь рассказано подробно, стала очевидной.

Прошли открытые сессии районных, областного и городского Советов народных депутатов. Районные депутаты высказались категорически против упразднения районного деления в Могилёве. На областной сессии выбрали нового председателя облисполкома. Им стал Н.Ф.Гринёв. Мы поздравляем Николая Фёдоровича с победой! Выборы были альтернативными. О городской сессии подробнее - в следующем номере.

30.09 - 1.10. В Москве состоялся Учредительный съезд Всесоюзной ассоциации избирателей - ВАИ. 164 делегата, среди которых были 2 могилевчанина, приняли временный устав и платформу ВАИ, базирующуюся на платформе Межрегиональной депутатской группы. Избрано Бюро из 7 сопредседателей и редактор печатного органа ВАИ - газеты "Хроника".

